# УСЁ – ПРА ІВАЦЭВІЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

**Райвыканкам** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Старшыня Пётр Георгіевіч **Жышко.** Тэл. 2-12-41.

Намеснік старшыні райвыканкама Уладзімір Мікалаевіч **Макар.** Тэл. 2-13-41.

Намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Пятровіч **Ляшкоў.** Тэл. 2-18-80.

Галоўны спецыяліст інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю райвыканкама Юрый Васільевіч **Кулініч.** Тэл. 2-11-98.

Начальнік аддзела райвыканкама па землеўпарадкаванню Анатоль Іванавіч **Самсановіч.** Тэл. 2-13-69.

Начальнік аддзела культуры райвыканкама (г. Івацэвічы, вул. Леніна, Дом культуры) Галіна Уладзіміраўна **Крынец.** Тэл. 2-15-45.

Начальнік аддзела статыстыкі райвыканкама Уладзімір Пятровіч **Крысько.** Тэл. 2-14-58.

Начальнік аддзела сацыяльнай абароны Аляксандр Кандратавіч **Барысік.** Тэл. 2-14-45.

Начальнік фінансавага аддзела райвыканкама Зоя Сцяпанаўна **Пархомік.** Тэл. 2-12-45.

Начальнік аддзела адукацыі райвыканкама Васіль Мікалаевіч **Басалай.** Тэл. 2-13-45.

Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама Іван Мікалаевіч **Чырко.** Тэл. 2-10-55.

Начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама Пётр Валянцінавіч **Кронда.** Тэл. 2-15-41.

**Рознічна-гандлёвае прадпрыемства** (г. Івацэвічы, вул. Паркавая, 4). Старшыня Тамара Аляксееўна **Казлова.** Тэл. 2-24-25.

**Раённае вытворчае аб'яднанне жыллёвай і камунальнай гаспадаркі** (г. Івацэвічы, вул. 60 год Кастрычніка). Старшыня Леанід Мікалаевіч **Кавалевіч.** Тэл. 2-24-09.

**Райкам БПСМ** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Першы сакратар Аляксандр Уладзіміравіч **Гляд.** Тэл. 2-35-82.

**Райкам прафсаюза работнікаў сельскай гаспадаркі** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Старшыня Міхаіл Аляксеевіч **Качан.** Тэл. 2-21-98.

**Райкам прафсаюза работнікаў асветы** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Старшыня Уладзімір Мікалаевіч **Васілеўскі.** Тэлефон 2-16-93.

**Раённы камітэт Чырвонага Крыжа** (г. Івацэвічы, вул. Свярдлова, 5). Старшыня Марына Юр'еўна **Краўчэня.** Тэл. 2-28-05.

**Раённая дзіцячая бібліятэка** (г. Івацэвічы, вул. Савецкая, 24). Загадчыца Зінаіда Уладзіміраўна **Басалай.** Тэл. 2-26-30.

**Раённы савет ветэранаў вайны і працы** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Старшыня Іван Адамавіч **Тарасевіч.** Тэл. 2-25-05.

**Рымска-каталіцкі касцёл Святой Троіцы** (г. Косава). Ксёндз Дар'юш **Блашчык.** Тэл. 32-2-33.

**Рэстаран „Шчара"** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 25). Дырэктар Валянціна Сямёнаўна **Пясецкая.** Тэл. 2-19-96.

### С

**Спіртзавод** (г. Івацэвічы, вул. 60 год Кастрычніка). Дырэктар Сямён Пракопавіч **Мазько.** Тэл. 2-16-24.

**СПМК-21** (г. Івацэвічы, вул. Лясная, 8 „А"). Начальнік Мікалай Іванавіч **Бабей.** Тэл. 2-11-59.

**СПМК-23** (г. Івацэвічы, вул. 40 год Кастрычніка). Начальнік Уладзімір Мікалаевіч **Клютко.** Тэл. 2-26-36.

**СПТВ-162** (г. Івацэвічы, вул. Механізатараў, 7). Дырэктар Георгій Іванавіч **Варановіч.** Тэл. 2-17-52.

**Станцыя тэхнічнага абслугоўвання легкавых аўтамабіляў** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 15). Начальнік Анатоль Сямёнавіч **Богук.** Тэл. 2-23-13.

**Сярэдняя школа № 1** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 74). Дырэктар Яўген Андрэевіч **Крываль.** Тэл. 2-23-08.

**Сярэдняя школа № 2** (г. Івацэвічы, вул. Камуністычная, 29). Дырэктар Віктар Іванавіч **Жывіневіч.** Тэл. 2-22-32.

**Сярэдняя школа № 3** (г. Івацэвічы, вул. Паўночная, 3). Дырэктар Жанна Георгіеўна **Гардзейка.** Тэл. 2-17-87.

**Сярэдняя школа № 4** (г. Івацэвічы, вул. Чарткова, 34). Дырэктар Леанід Канстанцінавіч **Скіндзер.** Тэл. 2-46-65.

**Стаматалагічная паліклініка** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 68). Загадчыца Тамара Іванаўна **Вакуліч.** Тэл. 2-47-02.

### Т

**Таварыства інвалідаў** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44, другі паверх). Старшыня Васіль Ігнатавіч **Саўчук.** Тэл. 2-41-37.

**Тэлемайстэрня „Гарант"** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 62). Загадчык Віктар Уладзіміравіч **Хаванскі.** Тэл. 2-23-77.

**Таварыства рыбаловаў і паляўнічых** (г. Івацэвічы, вул. Сікорскага, 3). Дырэктар Аляксандр Пятровіч **Купрэйчык.** Тэл. 2-15-79.

**Таварыства сляпых** (г. Івацэвічы, вул. Паштовая, 8). Старшыня Анатоль Міхайлавіч **Зыбайла.** Тэл. 2-31-47.

### У (участкі)

**Гаспадарча-разліковы рамонтна-будаўнічы ўчастак** (г. Івацэвічы, вул. Дэпутацкая, 2). Начальнік Мікалай Серафімавіч **Сінкевіч.** Тэл. 2-25-81.

**ДЭУ-2** (Івацэвіцкі раён, в. Яглевічы). Начальнік Мікалай Мікалаевіч **Усачык.** Тэл. 2-22-42.

### Ф

**Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва** (г. Івацэвічы, вул. Леніна, 44). Начальнік Марыя Аляксандраўна **Жышко.** Тэл. 2-28-84.

**Філіял Прамбудбанка** (г. Івацэвічы, вул. Заводская, 4). Кіраўнік Зоя Аляксандраўна **Саук.** Тэл. 2-46-73.

**Філіял Прыорбанка** (г. Івацэвічы, вул. Савецкая, 35). Кіраўнік Ганна Іосіфаўна **Ляшкова.** Тэл. 2-47-40.

### Х

**Хлебапрыёмнае прадпрыемства** (г. Івацэвічы, вул. В. Клютко, 14). Дырэктар Аляксандр Аляксандравіч **Гарчанюк.** Тэл. 2-25-96.

### Ц

**Царква** (г. Івацэвічы). Благачынны Івацэвіцкай акругі Рыгор **Піліпчук** (в. Быцень). Тэл. 33-6-90.

**Царква** (г. Косава). Святар Аляксей Аляксандравіч **Кіхалевіч.** Тэл. 32-7-91.

**Царква „Ражаства Хрыстова"** (г. Івацэвічы, вул. 60 год Кастрычніка, 13/15). Свяшчэннік Канстанцін Юр'евіч **Ткачэнка.** Тэл. 2-12-90.

**Цырульня** (г. Івацэвічы, прывакзальная плошча). Загадчыца Ганна Юльянаўна **Асіпік.** Тэл. 2-23-30.

**Цырульня „Маладосць"** (г. Івацэвічы, вул. Чарткова, 41 „А"). Загадчыца Ганна Юльянаўна **Асіпік.** Тэл. 2-37-36.

**Цэнтр занятасці насельніцтва** (г. Івацэвічы, Паштовы завулак, 17). Дырэктар Валянціна Рыгораўна **Мацвяеня.** Тэл. 2-20-96.

**Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі** (г. Івацэвічы, вул. Талочкі, 10). Галоўны ўрач Рыгор Дарафеевіч **Баранчык.** Тэл. 2-25-44.

### Ч

**Чыгуначная станцыя** (г. Івацэвічы). Начальнік Анатоль Уладзіміравіч **Хайко.** Тэл. 2-15-56.

### Э

**Электрасеткі** (г. Івацэвічы, вул. Леніна). Начальнік Дзмітрый Антонавіч **Гаўрыленя.** Тэл. 2-13-47.

### Ю

**Юрыдычная кансультацыя** (г. Івацэвічы, вул. Савецкая, 24). Загадчыца Марына Мікалаеўна **Брычыкава.** Тэл. 2-15-11.

## Адкрыта падпіска на "Газету для вас"

Шаноўныя чытачы! Калі Вы хочаце атрымліваць „Газету для вас" у чацвёртым квартале, аб гэтым можна паклапаціцца цяпер. З 10 жніўня пачалася падпіска. Зразумела, цяжка агітаваць Вас, паважаныя чытачы, каб Вы падпісаліся на „Газету для вас", калі ў сямейным бюджэце шматлікія дзіркі – хоць бы на харчаванне хапіла і на пакрыццё першачарговых расходаў. Аднак наша жыццё цяжка ўявіць без інфармацыі. Магчыма, Вы знойдзеце 18 тысяч рублёў – акурат такі падпісны кошт на квартал – і завітаеце ў бліжэйшае аддзяленне сувязі. Падпіску прымаюць сувязісты Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў. Можна падпісацца і на месяц ці два. Кошт тады меншы:6 і 12 тысяч рублёў.

Зрабіце выбар на карысць незалежнай „Газеты для вас"!

# Для дома, для семьи, для души...

## ● СОВЕТУЕТ ДЕЙЛ КАРНЕГИ

### СЕМЬ ПРАВИЛ ВЫРАБОТКИ ТАКОГО УМОНАСТРОЕНИЯ, КОТОРОЕ ПРИНЕСЕТ ВАМ ДУШЕВНОЕ СПОКОЙСТВИЕ И СЧАСТЬЕ

*Правило 1. Заполните свой ум мыслями о спокойствии, мужестве, здоровье и надежде, ведь „наша жизнь – это то, что мы думаем о ней".*

*Правило 2. Никогда не пытайтесь свести счеты с вашими врагами, потому что этим вы принесете себе гораздо больше вреда, чем пользы. Никогда ни минуты не думайте о людях, которых вы не любите.*

*Правило 3. Вместо того чтобы переживать из-за неблагодарности, будьте к ней готовы. Помните, что Иисус излечил десять прокаженных за один день, и только один из них поблагодарил его. Почему вы ожидаете большей благодарности, чем получил Христос?*

*Правило 4. Ведите счет своим удачам, а не своим неприятностям!*

*Правило 5. Не подражайте другим. Найдите себя и оставайтесь собой, ведь „зависть – это невежество", а „подражание – самоубийство".*

*Правило 6. Когда судьба вручает вам лимон, постарайтесь сделать из него лимонад.*

*Правило 7. Забывайте о собственных неприятностях, пытаясь дать немного счастья другим. „Делая добро другим, вы в первую очередь помогаете себе".*

## ● ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..

### СВЯЩЕННЫЕ И РОКОВЫЕ ЧИСЛА

*В большинстве стран мира цифра 13 считается числом, приносящим несчастье. В Японии и Китае несчастливыми цифрами считаются 19, 33 и 42.*

### А ВОТ СЕМЕРКА – СЧАСТЛИВОЕ ЧИСЛО

*В древние времена на Ближнем Востоке, а позднее в Древнем Египте и Риме число семь считалось священным. Ему придавалось магическое и даже символическое значение. Так, Вавилонская башня имела семь этажей. Рим был построен на семи холмах. Древние евреи также считали семерку священной цифрой. По индийской религии, мир создан семью силами. Будда сидит под священной смоковницей с семью плодами. Китай и Япония также почитали цифру семь. В Древней Греции было известно о семи чудесах света и семи знаменитых мудрецах. В Библии говорится о сотворении мира за семь дней, о семи смертных грехах и семи голодных годах. Не будем забывать, что неделя состоит из семи дней, радуга имеет сем цветов, а в октаве – семь нот...*

## ● ЗНАКИ ЗОДИАКА

### ДЕВА
### 24 августа – 23 сентября

*Стихия Земли. Управитель знака – Меркурий. Идеальное сочетание характеров – с Тельцом и Козерогом. Совместимость характеров – с Раком, Скорпионом, Рыбами. Цвета – белый, голубой, фиолетовый, зеленый. Камни – нефрит, сердолик, желтый сапфир (кошачий глаз), агат, карнелит, яшма, малахит, топаз, хризопраз, мрамор. Цветы – астра, мать-и-мачеха, красный мак. Счастливый день – среда. Неудачные дни – четверг, пятница. Благоприятные числа – 3, 5 (все числа, делящиеся на 5), 6, 12 (все кратные 12), 20, 27. Страны – Греция, Палестина, Россия.*

*Рожденным под знаком Девы присущи чувства реальности, логики, ясность, скрупулезность, высокая требовательность к окружающим, доходящая до педантизма. У них отсутствуют романтические начала, иллюзии, они всегда видят недостатки партнера. Ненавидят грязь, вульгарность, лень. Выносливы и трудолюбивы. В чувствах сдержанны, даже холодны, тщательно выбирают предметы своей любви. Трудолюбивы, пунктуальны до мелочей, терпеливые и практичные службисты. Под их серьезными манерами и суровостью лица скрыты чистота мыслей и ясность целей. Эпоха совершенства: первый период – в 22–28 лет, когда расцветают воля и разум, накапливается опыт; второй – в 35–49 лет, когда жизнь стабилизируется и появляются результаты многолетних усилий.*

## ● ФЕНОМЕН

### РОДИЛАСЬ С ИСКУССТВЕННЫМ СЕРДЦЕМ

*Шокированные врачи обнаружили искусственное сердце, идеально бьющееся в грудной клетке ребенка сразу после его рождения. Итальянские медики не могут объяснить это сверхприродное явление. Но родители девочки супруги Эмилиано убеждены, что их первенец – это доказательство жизни после смерти.*

*Отец девочки Антонио Эмилиано считает, что Агния – это реинкарнация кого-то, умершего с искусственным сердцем. Но доктор де Мита не согласен с гипотезой родителей.*

*„Наши исследования показали, что это искусственное сердце – техническое совершенство, – говорит он. – Его конструкция превосходит все чудеса техники. Мы не знаем даже принципа, по которому оно работает".*

*На мониторах виден аппаратик размером с маленький шарик, который соединен с системой кровеносных сосудов и выполняет все функции сердца.*

*Маленькая Агния развивается нормально, у нее прекрасный аппетит, она послушна и не доставляет никаких хлопот своей счастливой маме синьоре Марии Эмилиано.*

## ● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

*В кастрюлях, чайниках, помутневших изнутри, проварите кожуру от яблок и груш – они приобретут утраченный цвет, избавятся от накипи.*

**XXX**

*Удалить тонкий слой накипи со стенок эмалированной посуды можно, если кипятить в ней в течение 2 часов воду с добавлением уксуса (5 столовых ложек на 1 л воды). А если добавить в чайник раствор уксусной эссенции (1 часть эссенции на 5–6 частей воды) и нагреть до 60–70°С, то для удаления накипи потребуется 20–30 минут.*

## ● СЛОВО

### МУДРЫЕ МЫСЛИ

*Любить – значит делать доброе.*
*Лев ТОЛСТОЙ*

*Первая любовь потому так благоуханна, что она забывает различие полов, что она – страстная дружба.*
*Александр ГЕРЦЕН*

*Если собираетесь кого-нибудь полюбить, научитесь сначала прощать.*
*Александр ВАМПИЛОВ*

## ● УЛЫБНИТЕСЬ

**XXX**

*После кораблекрушения к необитаемому острову из последних сил подплывает чудом спасшийся мужчина. А на острове его встречает тоже чудом спасшаяся жена:*

*– И где же ты шатался целые сутки? Ведь пароход утонул еще вчера!*

